№27(53)
8.09.95

# Беларуская маладзёжная

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.




**TV программа на неделю**

( стр. 4 )

**Пра РОК**

( стар. 7 )

## БЫКАЎ ТЛУМАЧЫЦЬ, А СВЕТ СЛУХАЕ

4 верасня ў пасольстве Італіі ў Мінску адбылася сустрэча страшыні Свабоднага прафсаюза Беларусі Генадзя Быкава з прадстаўнікамі пасольстваў Англіі, Германіі, Італіі і Францыі. Лідэр Свабоднага прафсаюза даў тлумачэнні з нагоды прэзідэнцкага Указа № 336 ад 21.08.1995 года, дзе гаворыцца аб прыпыненні дзейнасці грамадскай арганізацыі, якую ён узначальвае.

За дзень да гэтага па ўсіх пасольствах замежных краін быў разасланы факс з копіяй легендарнага Указа прэзідэнта, у якім ён завысіў свае паўнамоцтвы. Быкаў паведаміў, што Свабодны прафсаюз збіраецца апеліраваць да Міжнароднай арганізацыі працы і міжнародных прафсаюзных арганізацый з мэтай устанаўлення законнасці і ў любым выпадку будзе стаяць, як і стаяў.

***Вольга МАМЧЫЦ***

***Пра пазіцыю Свабоднага прафсаюза і ФПБ -- на стар. 2.***

*Павел ЛОЙКА:*

**Абарона незалежнасці**

( стар. 3, 5 )

Частка накладу раздаецца бясплатна.

***Сёньня мы яшчэ ня маем вычарпальнае статыстыкі зьнішчэньня беларускамоўных школаў і клясаў у сталіцы і краіне.*** Але відавочна, што працэнт беларускамоўных клясаў будзе значна ніжэйшы, чым летась -- на радасьць славянскім саборам. Але як жа адбылося гэтае адступленьне беларушчыны?

Максымальна поўны збор фактаў пра антыбеларускі ціск на бацькоў з боку школьнай адміністрацыі яшчэ чакае свайго "летапісца". Але сьведчаньняў ужо цяпер больш чым дастаткова.

*Вінцук ВЯЧОРКА*

**ДОБРА ВЯДОМАЕ НАМ "РАЎНАПРАЎЕ"**

( стар. 5 )

*ЛИКА:*

***"Я БЫ ВСЕ РАВНО БЫЛА..."***

( стр. 7 )




*Константин СЕЛЬЧЕНОК:*

**"НЕ ПОРА ЛИ ПРОЗРЕТЬ ПОВОДЫРЯМ?.."**

( стр. 8 )

**Куды нас пхне чарговы раз Аляксандраўскі Указ?**

# Свабодны прафсаюз будзе працаваць!



***На мінулым тыдні нарэшце ўбачыў свет адзін з самых таямнічых указаў прэзідэнта. Гэта на яго існаванне спасылалася суддзя Злобіч, даючы "10 сутак" Г.Быкаву. Адначасова на яго неіснаванне спасылаўся У.Замяталін, а каму, як не яму ведаць, што робіцца ў Адміністрацыі? Але зараз ужо дакладна вядома, што прыпынена дзейнасць Свабоднага прафсаюза Беларусі, а на менскім метрапалітэне ўвогуле на засталося пярвічных прафсаюзных арганізацый.***

***Сваё стаўленне да "Указа аб некаторых мерах па забеспячэнню стабільнасці і правапарадку ў Рэспубліцы Беларусь" выказвае старшыня Свабоднага Прафсаюза Генадзь БЫКАЎ.***

-- Указ -- антыканстытуцыйны, ён парушае правы прафсаюзаў. Мы ад імя Свабоднага прафсаюза падалі прапанову Канстытуцыйнаму суду прыняць да разгляду гэты указ. Мы звяртаемся да старшыні ВС М.Грыба і в.а. Генеральнага пракурора В.Капітана а таксама да дэмакратычных партый, каб сабраць 70 подпісаў і ініцыіраваць разгляд гэтай справы ў Канстытуцыйным судзе. Калі гэты ўказ будзе выкананы, гэта будзе азначаць "дэ-факта" увядзенне ў рэспубліцы дыктатуры. Пакуль Свабодны прафсаюз не апячатаны, мы не выселены ў (звесткі на 5 верасня -- А.Х). Мы не забаронены, дзейнасць нашая прыпынена, але мы будзем працаваць і далей.

І яшчэ адну акалічнасць, што датычыць гэтага ўказу, хацеў бы падкрэсліць. Пункт шосты: "Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з Федэрацыяй Прафсаюзаў Беларусі ў месячны тэрмін распрацаваць і прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь неабходныя праекты законаў аб унясенні зменаў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь". Што гэта азначае? Гэта азначае, што прэзідэнт просіць накінуць сабе ўдаўку на шыю і душыць. Але ж я думаю, што Федэрацыя будзе "выбіваць крэсла" не з-пад сябе, тым самым выконваючы ролю ката.

-- Падтрымаўшы страйк у менскім метро, ці маглі вы чакаць такой рэакцыі з боку прэзідэнта?

-- Ведаючы Аляксандра Рыгоравіча вельмі добра і як дэпутата, і як прэзідэнта, ведаю, што для гэтага чалавека няма такога закона, якога б ён не пераступіў. Гэта мы бачым напрацягу больш чым гадавой яго дзейнасці. Апошнія падзеі паказалі, што ён не валодае інфармацыяй, не кантралюе падзеі. Адсюль і спробы ўжывання войск, іх было тры. І толькі дзякуючы разумнай палітыцы Свабоднага прафсаюза кравапраліцце было перадухілена.

-- Калі выйдзе забарона вашай дзейнасці, ці магчыма вашае з'яўленне пад іншым імем і праца ў падполлі?

-- Так, гэта магчыма, але мы не забаронены. Забараніць нас па закону мае права толькі Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь, а каб забараніць -- патрэбныя вельмі сур'ёзныя падставы. Такіх падстаў ніякіх няма. Таму Свабодны прафсаюз застаецца, і мы будзем не толькі назіраць за цяперашнім станам спраў, але і працаваць.

***А.ХМЯЛЬНІЦКІ, для "БМ"***

# Прэзідэнцкі Указ пярэчыць Канстытуцыі

***Сваё стаўленне да страйку ў менскім метрапалітэне і да падзей, якія ён выклікаў, у прыватнасці, да прэзідэнцкага ўказу нумар 336, выказаў істаршыня Федэрацыі Прафсаюзаў Беларусі Уладзімір ГАНЧАРЫК (паводле прэс-канферэнцыі 4 верасня ў Нацыянальным прэс-цэнтры).***

-- Што датычыць страйкаў, якія прайшлі і якія, не выключаю, будуць, таму што прычыны, якія іх выклікалі, застаюцца. Гэта -- шмат непрацуючых прадпрыемстваў, неплацяжы, недахоп ўласных сродкаў, масавыя нявыплаты ў тэрмін заработнай платы.

У прававым плане ацэнку страйку даі суд. Усе, нават самыя вострыя канфлікты павінны вырашацца ў рамках закону. Усе парушэнні, што былі пры звальненні людзей, а звальнялі з парушэннем заканадаўства, павінны быць скасаваны, людзі узноўлены на працы. Не павінны прыціскацца правы прафсаюзаў. Мы лічым, што былі прынятыя неадэкватныя меры -- апячатванне кабінетаў, вобыск.

Калі мы дэкларуем роўнасць адказнасці, то павінна быць і адказнасць наймальніка. Ёсць адказнасць наёмнага работніка --яго могуць звольніць ці пакараць, але за стварэнне перадстрайкавай сітуацыі, парушэнне працоўнага дагавора -- з боку наймальніка адказнасць сёння толькі дэкларатыўная. Гэта несправядліва. Мы неаднаразова пра гэта заяўлялі. Падчас канфлікту, мы неадаразова звярталіся да пракурора рэспублікі, горада, начальніка метрапалітэна, мэра горада з патрабаваннямі, каб не дапушчаліся парушэнні закона. На першай стадыі "разбіральніцтва" мне паабяцалі, што не будзе ніякіх массавых звальненняў і праследванняў. Канфлікт будзе вырашаны строга ў рамках закону. Нажаль, абяцанні былі парушаныя. Мы вымушаны былі звярнуцца, яшчэ не ведаючы пра ўказ, да прэзідэнта з прапановай стварыць спецыяльную камісію, куды б уваходзілі прадстаўнікі адміністрацыі Прэзідэнта, наймальніка, прафсаюзаў і праваахоўных органаў. Але не атрымалі адказу. Пазней Указ быў апублікаваны. 1 верасня адбылося паседжанне прэзідыуму Фэдэрацыі, падчас якога была дадзена ацэнка: парушаюцца нормы Канстытуцыі, Закона аб прафесійных саюзах. Таму мы зноў звярнуліся да прэзідэнта з прапановай перагледзіць змест указа ў правесці сустрэчу з членамі прэзідыума Савета Федэрацыі, каб абмеркаваць тую атмасферу, што склалася вакол прафсаюзаў.

Забараніць дзейнасць прафсаюза адпаведнага ўзроўню, можа толькі адпаведны суд паводле прадстаўлення пракурора. Законам аб прафсаюзах не дапускаецца закрыццё нейкім іншым чынам. Што датычыць фармулёўкі "прыпыненне", то такога юрыдычнага паняцця ў законе наогул няма.

Мы будзем дабівацца ўзнаўлення на працы звольненых членаў нашага прафсаюза ў мінскім метрапалітэне. Паводле "Закона аб прэзідэнце", наколькі я памятаю, указы прэзідэнта выдаюцца ў рамках яго паўнамоцтваў на аснове і для выканання законаў.

***Запісаў А.ХМЯЛЬНІЦКІ, для "БМ"***

● Интегральное "уравнение"

## Об искусственно созданном конфликте на НПО "Интеграл"

Притча на интеграловском материале.

Забрел Завфермой на рабочее место и стал равнодушно узнавать и припоминать, где что и зачем. Лишь додумался, что за результаты будет спрашивать Председатель, -- пришел в ужас. Кормов не запас, молоко возить -- последняя телега развалилась. И, сама собой, созрела идея поискать виновных. Кто? Ну, конечно, коровы! Всех на бойню и сразу -- нельзя, надо бы постепенно, да с умом.

Раз не задал корму, второй, -- ревет скотина: "Давай колдоговор новый заключим!" Только отмахнулся Заведующий, снова сена не дал. И вырвались коровы из стойла, помчались жаловаться к Председателю. Но перехватил их по дороге Агроном, обещал подойти-разобраться.

А тем временем хозяин фермы пробежался по помещению да и записал, какие-такие-которые недовольство выказать посмели. Вот пришел Агроном, шевелит сердито бровями: "В чем дело, почему скот жалуется?"

-- Обнаглели, -- отвечает Завфермой, -- жрут досыта, а молока не дают. На бойню сдавать пора.

-- Что ж, сдадим, только б знать, которых.

-- Так вот, и списочек имеется. -- Завфермой протянул бумажку...

Эта история говорит о том, как нерадивый хозяин спровоцировал на акт скотского неповиновения своих подопечных.

Такая же точно история произошла на НПО "Интеграл", с той лишь разницей, что руководящие работники имеют иные должности, а руководят не коровами, а людьми. В конечном итоге, люди представлены советнику Президента виновниками развала такого гиганта как "Интеграл", -- старая практика: в успехах "виновна" администрация, в просчетах -- коллектив. И коллектив, сложившийся за 30-летнюю историю, сегодня слышит: НЕ НРАВИТСЯ -- УВОЛЬНЯЙТЕСЬ!

Неудержимый рост стоимости товаров и услуг при стабильных задержках с выплатой зарплаты вынудили работников объединения 21 августа пойти к Президенту. Со стороны администрации последовали известные способы устрашения -- увольнение по статье 33, п.4 КЗоТ Республики Беларусь. Начало увольнениям было положено уже 25 августа, и, со слов замдиректора по кадрам-режиму-быту Ленского Э.Ф., таких ходоков зафиксировано таблеграммой сто тридцать четыре человека. Он дал понять, что репрессии будут продолжаться.

Но позвольте, Эдуард Федорович, не администрация ли подтолкнула людей на крайнюю меру, отказавшись вести переговоры с профсоюзами?

От своего имени и, смею надеяться, от имени работников НПО "Интеграл" обращаюсь к Президенту Республики Беларусь: примите участие в судьбах людей и самого предприятия. Мы не хотим митинговать, мы хотим спокойно работать и жить. Разве в этом нашем желании есть что-то противозаконное? Еще ни одно государство не поднималось до уровня цивилизованного общества под флагом репрессий и страхом увольнения.

***С уважением Александр ЭЙПУР, слесарь с 25-летним стажем, бывший работник НПО "Интеграл"***

# Бытие уже угрожает сознанию. Так разумно ли отрицать реформы?



***С момента своего создания Белорусский Народный Фронт значительную часть своей работы направил на анализ экономического состояния Беларуси, разработку прогнозов экономического развития и экономических программ.***

Официальная пропаганда последних лет,как кебичевская,так и лукашенковская,методично била в одну точку,представляя оппозиционные номенклатурным властям силы,как людей,зацикленных на белорусском языке и ненавидящих Россию и русских,хотя очевидно,что это неправда.Выступления Оппозиции БНФ в Верховном Совете против втягивания Беларуси в орбиту интересов крупного российского капитала интерпретировались как неприятие всего русского.Приведу пару примеров.Заключённое соглашение между Беларусью и Россией по т.н.клирингу приводило к тому,что продаваемые странами товары по ценам ниже мировых перепродавались коммерческими структурами третьим странам по значительно более высокой цене. Белорусские МАЗы российскими коммерческими структурами в Китай,российская нефть белорусскими коммерческими структурами на Запад.Объявленное объединение денежных систем было не более чем прикрытием для грандиозных валютных спекуляций.При очередном "объединении российского рубля с белорусским по курсу один к одному" доллар резко падал,затем "объединение" отменялось и доллар снова взлетал.Информированные валютные спекулянты нажили на этом миллионы долларов.Любой экономист скажет,что невозможно объединение денежных систем без полной гармонизации законодательств,а фактически объединения государств.

Любая критика проводимой правительстом политики в очередной раз представлялась официальной пропагандой как антирусские настроения.Деятельность же Оппозиции БНФ в ВС, на 80% состоявшая из работы над законодательством по экономическим вопросам , искажалась, а чаще замалчивалась.Приведу пример.В январе 1994 года БНФ провёл научно-практическую конференцию по вопросам стабилизации денежно-кредитных систем.Конференция,собравшая почти всю экономическую, научную элиту, экономистов-практиков, зарубежных специалистов, была чрезвычайно результативной. Большинство специалистов, отечественных и зарубежных, сошлись во мнениях о путях выхода Беларуси из экономического кризиса. Однако выводы профессионалов расходились с официальной точкой зрения. И в итоге правительственные средства массовой информации проигнорировали результаты конференции. "Нацыянальная эканамичная газета",подготовившая объёмный материал по итогам конференции, дала анонс в номере 4 от 26.01.94 г.: "Отчёт о конференции читайте в одном из ближайших номеров." Ждать этой публикации приходится до сегодняшнего дня.

Оппозиция БНФ в Верховном Совете, состоящая всего из 30 человек, вместе с экспертами, ещё в начале своей деятельности наработала более 40 законопроектов, в первую очередь экономических. Среди них такие, как "О собственности","О земле","О банках и банковской деятельности","О местном самоуправлении" и др. Практически все они были отвергнуты большинством Верховного Совета.К наиболее же важным достижениям Оппозиции БНФ стоит отнести те постановления,которые запретили нахождение белорусских войск в "горячих точках".Положение о нейтралитете по настоянию Оппозиции было введено в конституционный Закон,а затем и в Конституцию. Коммунистическим большинством была отвергнута и разработанная в 1992 г."Концепция экономической реформы в Республике Беларусь" (опубликована в "Народной газете" 16 апреля 1992 г.).Прошло время, жизнь подтвердила правильность оценок и прогнозов БНФ. Проведенные на таких же принципах реформы в Чехии, Эстонии и других странах дали результат. После спада, вызванного реформированием экономики, эти страны превысили объем производства 1990 года и уверенно идут вперёд, растёт жизненный уровень их граждан.В Беларуси же падение производства составляет почти 50% к уровню 1990 года.

Налоговое законодательство было оценено оппозицией как жесткое, могущее привести к угнетению деловой активности, снизить конкурентоспособность белорусских товаров и в конечном итоге уменьшить поступления в бюджет и соответственно уменьшить финансирование бюджетной сферы, пенсионного обеспечения. Было заявлено,что денежно-кредитная политика, отказ от введения национальной валюты приведет к инфляции, росту цен, обесцениванию денежных вкладов граждан. Все эти оценки впоследствии были подтверждены самой жизнью. Пять лет назад, в октябре 1990 года, оценивая проводимую коммунистическим большинством Верховного Совета и правительством политику, от имени оппозиции З.Позняк предупреждал: "Совмещение двух систем -- рыночной и административной - закономерно и безотказно приводит к единственному результату: к безудержному росту спекуляции, теневой экономики, возникновению коррумпированных мафиозных групп, соответственно -- к обнищанию большинства людей". И далее: "Необходимо элементарно понимать, что Беларусь не может жить в изоляции, этаким верноподданическим островом среди свободных стран... Создание внутреннего рынка закономерно приводит к необходимости внешнеэкономических взимоотношений между государствами на основе равного партнерства и взаимной выгоды"( Бюллютень 4 Неочередной второй сессии.1990 г.)

Нам часто говорят,что БНФ опережает общественное сознание,в том числе и в экономических отношениях,на 2--3 года.И даже предлагают "притормозить".Я здесь не беру вульгарно популистскую риторику президента и его окружения: чего стоит его недавнее заявление о построении в стране "рыночного социализма"! В одном из последних номеров "Деловой газеты" помещён доклад Председателя правления Национального Банка Республики Беларусь С.Богданкевича.Каждый внимательно следящий за полемикой, которую в последние годы ведут белорусские экономисты о путях реформирования экономики страны,заметит:основные подходы,представленные С.Богданкевичем (ограничение верхнего предела общих налоговых сборов 30-35%, реструктуризация сельского хозяйства, приватизация,законодательные границы дефицита бюджета,полная са-мостоятельность субъектов хозяйствования и т.д.), были предложены БНФ ещё несколько лет назад.Некоторые из этих подходов встречали оппонирование со стороны Председателя НБ, как, кстати, и со стороны некоторых "либералов рыночников".И причина не в том, что,как возможно напишут коммунисты, "Богданкевич скатился на позиции БНФ". Необходимости подобных экономических реформ крайне остро требует жизнь. И наверное нет ни одного "незашоренного" экономиста, который бы этого не понимал.

Отрицательные последствия проводимой президентом экономической политики очевидны.Однако, очевидно и то, что выводов из этого не сделано никаких.Продолжение такой политики игнорирования объективных экономических законов,отсутствие комплексного подхода в попытках проведения реформ (пример "Антикризисная программа") только загоняет болезнь внутрь и угрожает проявлением ещё более негативных последствий. Сегодня ни у кого не вызывает сомнения,что сдвинуть ситуацию в лучшую сторону можно только политическим путём.И здесь многое будет зависеть от предстоящих "довыборов" в Верховный Совет.

***Ю. БЕЛЕНЬКИЙ, депутат***

● Сначала было слово...

Михаил ПОДОЛЯК:

# "За мизерную сумму, которую Климов вложил, он получил несравнимо больше"

***Газета Андрея Климова", просуществовав всего год, успела обрасти массой легенд и слухов. Вначале были ернические насмешки под попытками 23-летнего редактора М.Подоляка сделать газету европейского типа, потом -- рассказы о баснословных гонорарах "от Климова", противостояние достаточно демократической газеты попыткам заткнуть рот прессе, и, наконец, внезапное ее исчезновение, наделавшее в интеллектуальных кругах шуму больше, чем само существование газеты.***

***Теперь, кажется, страсти поутихли. Сидим с Михаилом в баре, говорим о газетном деле вообще, о том, что значение у нас средств массовой информации сведено к нулю, ни одного вопроса не было еще пролоббировано какой-либо газетой, а сами журналистские круги -- достаточно, в общем-то, непорядочная тусовка.***

**-- Михаил, кому в свое время понадобилась "Климовка"?**

-- Одна из версий: поскольку в РБ отсутствовали хорошие газеты, один хороший человек -- это был Климов -- решил попытаться дать на газетный рынок хорошую газету. Естественно, только на принципах альтруизма. На самом деле, это был обычный имиджевый ход. Климов интуитивно почувствовал, что рекламу можно делать не только платя газетам бешеные деньги за одно-два разовых объявления. Хотя дело шло неплохо, и название Малого предприятия Андрея Климова уже само по себе что-то значило. Совсем иное -- назвать газетное предприятие своим именем. Подумалось -- а чем черт не шутит? Получилось хорошо, газета периодически всплывала в различных скандалах, и это приносило солидные дивиденды самому Климову. И какие! Год назад в сфере политического истеблишмента, в кругах людей, занятых общественной деятельностью, вообще не говорили о Климове, как о серьезном конкуренте или потенциальном сопернике, а через год он уже баллотировался в Верховный Совет, причем прошел первым по своему округу и победил бы, если бы выборы состоялись. Для многих он уже выглядит чуть ли не консультантом в вопросах политики, его называют Андреем Евгеньевичем, многие политические партии собирались с ним сотрудничать, потому что у него было раскрученное имя и газета, как собственное средство массовой информации, оказывающее влияние на людей (по крайней мере, на Минскую область оно распространялось). Но, делая газету, на первых порах он об этом не думал, -- всего лишь хотел польстить своему тщеславию. Естественно, многие на МП не разделяли этих его взглядов, не понимали, зачем нужно тратить деньги за газету. Я сразу сказал ему -- она будет убыточной, и создаем мы ее не для того, чтобы сразу получать прибыль. Понятно, кому и для чего она была нужна, если носила имя А.Климова, а не М.Подоляка или А.Лукашенко.

**-- Почему же она не смогла стать массовой и прибыльной?**

-- По причине неопытности руководства, слабости журналистского коллектива и полного отсутствия перспективной программы развития этой газеты. Да и откуда было всему этому взяться, если родилась она неожиданно, и когда последовало предложение со стороны Климова, у всех были свои планы. Естественно, газету мы сделали, но коллектив так и не смог организоваться в единый монолит. И потом -- отсутствие финансирования. Все думали, что газета Климова -- это богатый монстр, где все сидят на деньгах. Но на те средства, которые у нас были, нельзя выйти было обычной газете даже двухтысячных тиражом. Нельзя сделать гигантское из ничего. Мало того, когда мы заговорили о необходимости работать в новом режиме, создать информационную сеть, заключить некоторые новые договоры -- нам все это тут же обрезали, опять -- по причине якобы отсутствия денег. Лимитировались деньги на бумагу, а когда закончился годовой срок работы на арендной аппаратуре, на свою нам денег не дали. Как в таких условиях говорить о тиражности? Пересеклось отсутствие финансов и отсутствие четкой программы развития этой газеты.

Когда я начал ею руководить, мне было 22 года, и со своим медицинским образованием я понятия не имел о газетном бизнесе, опыта не хватало; кроме того, у журналистов, наверное, хобби -- издеваться над своими коллегами, когда у них что-то не получается. Поэтому помощи не было, в первые месяцы из-за отсутствия опыта натворили много ошибок. Хотя со временем, когда начались контакты с людьми, определилось лицо газеты, как издания нового типа. Но тянул я все один, потому что у большинства наших людей психология такова -- прийти, предложить идеи, убедить взять его на работу, а потом выясняется, что он не может и сотой доли обещанного, -- именно не может, не хватает таланта. Что говорить -- один в поле не воин. Мне приходилось, в виду своей неопытности, идти на ряд уступок. Например, угроза закрытия газеты после публикации доклада Антончика -- объясняться приходилось на самом высоком уровне, и чего это стоило! Но как только я понял, что надо коренным образом менять, понял, что такое газета -- нас вообще отказались финансировать.

**-- Почему так получилось?**

-- Кто знает, почему Климов забросил одно из своих детищ... У него привычка -- если ему что-то не нравится, он об этом просто забывает. Когда газета была ему нужна, он дни проводил в редакции и общались мы круглосуточно. Как только она ему надоела, -- он перестал ей интересоваться, и два месяца она висела в воздухе, пока в один прекрасный день не решили -- а черт с ней, зачем она нам нужна!

Причина такого решения, на мой взгляд, в определенной некомпетентности окружения Климова. Даже когда создавалась газета, эти люди не понимали, зачем она им нужна. Но пока Климов был кровно в ней заинтересован, не решались вмешиваться в работу; как только после неудачи Климова во 2 туре выборов почувствовали, что пыл издавать ее охладел -- все ринулись давать свои абсурдные распоряжения, от которых я отказывался, пока было возможно. В июне к нам уже относились не как к структурному подразделению предприятия Климова, а как к врагам, работающим во вред.

Здесь посыпались судебные иски. Те из них, где в судебном процессе участвовала сама редакция, мы выиграли, а если проиграли, то так, что проигрыш равен победе, например, по иску судьи Ленинского района в сумме 500 млн. мы уплатили всего один миллион. А те дела, в которые вмешивалась юрист МП, мы проигрывали. Потому что она не участвовала в разбирательствах, она соглашалась с истцом и говорила -- назовите сумму, мы заплатим. Она отказывалась от судебных заседаний, потому что не знала, как там что делать.

**-- Значит, у Климова не все так хорошо?**

-- Климов сам по себе человек очень умный, прогрессивный, мог бы очень много сделать для республики, но вот придумал он первые свои проекты, а потом набрал некомпетентных людей, -- и я могу с точностью прогнозировать, что если сегодня такое руководство еще с рук сходит, то с течением времени, когда изменятся условия игры, все может разлететься. Можно с легкостью отмахнуться от газеты, -- правда, как люди на него смотреть будут? -- но с такой же легкостью могут разлететься и стройка, и банк. Не потому, что Климов плохой, а потому, что он должен сегодня же заменить людей, иначе хаос таковым и останется.

**-- А если бы Климов не прекратил финансировать газету?**

-- Он этого делать не прекращал, потому что финансировать ее не начинал. Такой уровень финансирования газету не устраивал. В мае мы потребовали 50-60 процентов к той сумме, которая была, у нас были планы реформирования газеты. Но -- не дали. За мизерную сумму, которую Климов вложил, он получил несравнимо больше.

Люди из газетного бизнеса, когда я им рассказываю об этом, удивляются, -- как можно за такие суммы пытаться что-то сделать?

**-- Вы надеялись на жизнеспособность газеты?**

-- До зимы -- да, надеялся выйти на хороший уровень информации, тираж, но понял, что денег не дадут, потому что хотят нас видеть обычной имиджевой газетой одного человека. И мы рекламировали его посредством того, что не всегда писали плохие статьи, а люди читали, и обращали внимание на заголовок. О том, чтобы делать ее "на века", с зимы речи уже не шло.

**-- Что бы вы делали в роли редактора новой газеты?**

-- Много информации; краткие комментарии без особой научности и помпезности; умерший у нас жанр репортажа и интервью, т.к. через газету читатель хочет говорить напрямую...

***Интервью брала***
***Тина КЛЫКОВСКАЯ***

# Вяртанне да "самвыдата"

*СІМПТОМ №...*

У другой палове апошняга летняга дня я збіралася ехаць у Маладэчна, на сустрэчу прадстаўнікоў Беларускай Партыі Свабоды з прыхільнікамі беларускай ідэі. Там, як мне паведамілі, чакалі: і мясцовая беларуская моладзь, і спяцназ. Сустрэлася ў Мінску з парцейцамі, папляткарылі аб палітычным жыцці... Рыхтаваліся да "буйных падзей", але недзе пад Радашковічамі электрычка зламалася і "завісла" амаль на гадзіну.

У Маладэчна высветлілася: нас ужо не чакалі -- магчыма, мясцовых разагналі да нас. Лідэры партыі не жадалі мірыцца з няўдачай, і нават паспрабавалі прайсціся па вуліцы з разгорнутымі паласатымі сцягамі. Адразу падскочыў АМАП, паведаміў, што са сцягамі немаведама якімі -- нельга, а больш трох збірацца -- таксама (гэта ўжо навіна).

АМАПаўцы ўзялі хлапцоў у кардон; пабачыўшы гэта, я падскочыла да іх: настроілася ўмяшацца, калі адбудзецца нешта, на мой погляд, не тое. Але хлопцы ў форме былі нейкія стомленыя, на дзіва лагодныя, таму яны падказалі "спазніўшымся" нацыяналістам дарогу да вакзала, і праз некаторы час мы зноў сядзелі ў электрычцы.

Але настрой знік: выезд "з'еў" амаль увесь дзень. Тут ужо хлапцам стала шкада мяне. Параіліся, паглядзелі збоку -- і сказалі ўвечары чакаць тэлефоннага званка. Вырашылі матэрыял мне "арганізаваць".

Патэлефанавалі мне бліжэй да апоўначы. Адразу растлумачылі, -- са мной размаўляе рэдактар "Лукашэнскай праўды", дае права перадаць змест размовы адразу ў некалькі выданняў. Па голасу адзначыла -- не старэйшы за 25 год.

"Газету" я бачыла: на вакзале, ўздоўж электрычак, ішоў гандль. Побач з патрыятычнымі заклікамі дастаткова і "клубнічкі" ды ўсё чамусьці пра асабістае жыццё Прэзідэнта. "Самвыдат"! Але пра асобу чалавека, які выдае газету, ужо пачалі хадзіць у маладзёжных колах розныя прыдумкі, таму я вырашыла: выведу ўсе "на чыстую ваду".

Зразумела, што псеўданім рэдактара "Ігар Лук'янаў" -- гэта ўсяго толькі псеўданім.

-- Штуршком да такога ўчынку стаў арышт лідэра Партыі аматараў піва Андрэя Рамашэўскага і групы студэнтаў 24 мая, калі яны паспрабавалі выказаць пратэст супраць антызаконных, антыдзяржаўных дзеянняў: меншая частка грамадства навязала большай свой герб, сцяг, якія з'яўляюцца вычварэннем, а не гістарычнымі сімваламі.

Першы нумар быў зроблены спантанна, за 4-5 гадзін, можа, крыху болей. Гэта паказвае і ўзровень нашай паліграфіі -- ад задумкі газеты да выхаду тыража прайшло не больш сямі гадзін.

Рабілі ўдваіх з сябрам. Зараз лягчэй -- з'явіўся калектыў журналістаў, якія з дзіўным энтузіязмам у гэта ўключыліся.

**-- У вас з'явіліся аднадумцы? Хто гэта?**

-- Гэта журналісты цэнтральных газет, агенстваў, даволі вядомыя людзі. Я не пытаюся ў іх, дзе яны бяруць інфармацыю, гэта іхныя цяжкасці. Яны за праўдзівасць і адказваюць. Нешта, вядома, трэба ўскосна праверыць, але гэта ўсё -- праўда.

**-- Калі так, чаму вам хавацца за псеўданім?**

-- А ёсць магчымасць пад сваім імем? У гэтай краіне? Калі б я такое зрабіў -- адразу пачаліся б рэпрэсіі, ці косткі пераламаліся б ля пад'езду. Пад сваім імем немагчыма. Газета праваахоўчая, паведамляе аб усіх арыштах, будзем імкнуцца не прапускаць ніводнага такога моманту, пра ўсіх будзе распаведзена. Але афіцыйна выдаваць яе немагчыма.

**-- На вас выйсці будзе магчыма, калі ўлады паставяць такую мэту?**

-- Так, мяне возьмуць лёгка. Але гэта не спыніць выхад газеты. Газета будзе выходзіць далей.

**-- Калі б вы паставілі пад нумарам уласнае імя -- ці не была б верагодней праўдзівасць фактаў?**

-- Думаю, не.

**-- Вы збіраецеся мець з гэтай газеты камерцыйны прыбытак?**

-- Не. Выдаецца яна на асабістыя сродкі, усё ўкладаем у яе самі. Камерцыйнай яна не будзе, так яна і застанецца "жоўтай прэсай". У нас у краіне няма "жоўтай прэсы", тое, што да такой далучаюць "7 дзён" альбо нешта адпаведнае, не азначае, што яны такімі выданнямі з'яўляюцца. У нармальным грамадстве такая прэса павінна быць.

**-- Сумясціць "жаўцізну" і праваахоўнасць -- гэта не абсурд?**

-- Чаму? Не. Мы падаем заўсёды гарачыя навіны, сенсацыі. Гэта сумяшчальна. Там больш, што вельмі прыстойныя журналісты прыносяць мне матэрыялы, нават больш, чым я магу перапрацаваць.

**-- Скажыце, газету падтрымліваюць палітычныя колы?**

-- Не, ніякай фінансавай падтрымкі няма, і наўрад ці гэта магчыма. Дапамагаюць мае сябры. А бізнесмены -- вельмі абмежавана, толькі тым, што я магу выкарыстоўваць іхныя тэхнічныя сродкі, вядома, за грошы. Усе грошы з'ядае друкаванне.

**-- Ці не спрабавалі даведацца, як да газеты ставіцца чытач?**

-- Чаму не. Хлапцы, якія яе прадаюць, кантралююць, якая колькасць людзей адзываецца станоўча, якая -- не. Калі ўлічыць, што ў вагон электрычкі часам набіваюцца ледзь не 100 чалавек, а бяруць яе ўсе, -- на тры вагоны знаходзіцца тры чалавекі, якім моцна не падабаецца.

**-- Людзі газеце вераць?**

-- Няхай проста атрымліваюць інфармацыю. Яна ў іх у падсвядомасці застанецца, і пры выпадку яны прааналізуюць і ва ўсім разбяруцца.

... Яшчэ я даведалася, што мой суразмоўца з'яўляецца членам адной з беларускіх партый, і некалькі разоў удзельнічаў у сутычках з камуністычнымі пікетамі...

***Размаўляла Ціна КЛЫКОЎСКАЯ, "БМ"***

● Да ўгодкаў Аршанскай бітвы

# Абарона незалежнасці

**Крывавая мяжа.** Гісторыя сярэднявечнай Беларусі -- гэта суцэльная гісторыя войнаў. І калі ў стагоддзях XIII, XIV, пачатку XV галоўным ворагам Беларуска-Літоўскага гаспадарства з'яўляўся крыжацкі Ордэн, то з другой паловы XV ст. усё большая небяспека для незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага паўставала на Усходзе. З канца XV ст. усходні сусед Княства -- Маскоўская дзяржава -- пачала збіранне ўсходнеславянскіх зямель, што складалі некалі старажытную ўладзіміраву Русь. Моцная, вялікая Масква паўстала з невялікага ўдзелу-вотчыны, далучаючы да сябе суседнія, былыя незалежныя ўдзелы-княствы. Іван III прыпісвае сабе ролю спадкаемцы Кіева, а пасля жаніцьбы на дачцэ апошняга візантыйскага імператара, ролю спадкаемцы Візантыі ды галавою ўсіх праваслаўных хрысціян Усходняй Еўропы. Пасля гэтага ён пачынае выказваць прэтэнзіі на суседнія праваслаўныя беларускія ды ўкраінскія землі, што мелі сваю асобную дзяржаву. Вялікае Княства Маскоўскае аб'яўляе іх таксама сваёй вотчынай.

Палітыка Масковіі ў дачыненні да суседніх заходніх зямель была сфармулявана ў наступных словах маскоўскага ўладара: "Адно не толькі наша вотчына тыя гарады і воласці, што цяпер за намі. І ўся зямля Руская, Кіеў і Смаленск ды іншыя гарады з божай волі, з старыны, ад нашых прабацькоў -- наша вотчына".

Гэта было абвяшчэннем адкрытай агрэсіі Масквы супраць Вялікага Княства Літоўскага. Вялікі князь літоўскі Аляксандр не жадаў ісці на ваенны канфлікт з усходнім суседам. Улагодніць адносіны з Маскоўскай дзяржавай ён намерваўся шляхам свайго шлюбу з дачкою Івана III князёўнай Аленай. Шлюб адбыўся, але міру гэта паміж дзяржавамі-суседзямі не дало.

У XVI ст. Вялікае Княства Літоўскае і Маскоўская дзяржава ўваходзілі ў стане вайны паміж сабою. 14 ліпеня 1500 г., як занатаваў летапісец, "з'ехалася войска літоўскае з маскоўскім на Ведрашы (рака на Смаленшчыне) і ўчынілі паміж сабой бой і сечу вялікую. Ды пабіла Масква Літву". Вынікам пераможнай для Масковіі вайны з'явіўся мірны дагавор 1503 г. Паводле яго Вялікае Княства страціла 700 воласцей і 19 гарадоў, сярод якіх Чарнігаў, Гомель, Бранск, Старадуб ды іншыя.

Натхнёны перамогамі свайго бацькі, спадкаемца Івана III на маскоўскім троне Васіль III працягвае наладжваць ваенныя выправы супраць Вялікага Княства. У 1506-1508 гг. адбываюцца баявыя дзеянні паміж варагуючымі бакамі.

***(Заканчэнне на с.5)***

# ПАВОДЛЕ ЧУТКАЎ

Гавораць, што з новых таксафонаў можна тэлефанаваць ня толькі ў межах сталіцы Беларусі, але й на значна вялікшыя адлегласьці: у Расею, Украіну, Кыргызстан. І , нават, у Францыю, Бэльгію ды йіншыя краіны найдалейшага замежжа. Чаму ж ніхто не карыстаецца новымі таксафонамі па, як кажуць, "поўнай праграме"? Адказ просты: таму што пра гэтыя магчымасьці новых таксафонаў мала хто ведае.

Тэлефанаваць, дапрыкладу, у Францыю, вельмі проста. Трэба набраць неабходныя лічбы (пра йіхнюю колькасьць можна даведацца на тэлефоннай станцыі), ды спакойна размаўляць з замежнымі сябрамі.

Бяда ў тым, што хуліганы, якія спрадвеку "бамбілі" аўтаматы, не спыняюцца перад тым, што новыя таксафоны вельмі дарагія ды дасканалыя. Таму, улічваючы колькасьць ахоўнікаў парадку ў Менску, уладныя структуры вырашылі замацаваць за кожным таксафонам па міліцыянту.

Вось гэткія плёткі. Тым ня меней, жыхары Менску скардзяцца, што з новых таксафонаў цяжка датэлефанавацца да менскага абанэнта. Можа, у Францыю ці Расею датэлефанавацца лягчэй? Паспрабуйце.

☺ ☺ ☺

Нарэшце менскім міліцыянтам раздалі новыя кукарды з "рэфэрэндумскай" сымболікай. Супрацоўнік "БМ" быў сьведкам наступнае размовы ахоўнікаў парадку: "Вася, гэта зноў ненадоўга, так што сільна не пракалывай, а то шапку іспорціш". Так, відаць, сапраўды няма стабільнасьці ў грамадзтве, калі такія трывалыя людзі, як міліцыянты, робяць вышэйазначаныя прагнозы...

☺ ☺ ☺

Гавораць, што неўзабаве ў Менск завітае небезьвядомы мэталёвы гурт з Брытаніі "Мотархэд". Калі так напраўду здарыцца, можна толькі павіншаваць беларускіх прыхільнікаў цяжкае музыкі.

☺ ☺ ☺

Нядаўна ў парку Горкага адбывалася Сьвята прэсы. Вышэйзгаданае сьвята мела багатую й разнастайную забаўляльную праграму: канцэрт народных калектываў, выступ альтэрнатыўнае літаратурнае тусоўкі "БУМБАМЛІТ", выстава творчасьці сучасных мастакоў. Дарэчы, гэтая выстава адбывалася пры стэньдзе газэты "Культура". Там фігураваў, нават, партрэт нашага прэзыдэнта. На гэтым мастацкім творы першая асоба дзяржавы сядзіць за сталом, на якім ляжыць розная садавіна-гародніна ды йіншыя кампанэнты сьвяточнае вячэры. Прэзыдэнт адлюстраваны ў момант заканчэньня гэтае вячэры, пьючы гарбату, "по-купечески", са сподачку. Паколькі вядома пра зьяўленьне й іншых, альтэрнатыўных дзяржаўным, выяваў прэзыдэнта, можна пачынаць размову пра новы стыль жывапісу на Беларусі --"прэзыдэнт-арт".

# "ДАЛОЎ САМАДЗЯРЖАЎЕ!"

6 верасня прадстаўнікі левадыкальнай рэвалюцыйнай арганізацыі "Чырвоны жонд" у Мінску падалі заяву ў Мінгарвыканкам з просьбай дазволіць правядзенне 7 лістапада антыфашысцкай дэманстрацыі "Моладзь супраць фашызму" пад кодавай назвай "Задушым фашысцкую гадзіну".

Па словах лідэраў "Чырвонага жонда", дэманстрацыя будзе накіравана супраць шавінізму, расізму, нацыяналізму і г.д. Яны таксама растлумачылі карэспандэнту "БМ", што "Чырвоны жонд" -- гэта шырокая міжнародная арганізацыя маоністаў і левых тэрарыстаў з цэнтрам у джунглях Калумбіі, дзе партызаны-рэвалюцыянеры вырабляюць какаін і прадаюць яго буржуям, а на выручаныя ад продажу грошы падтрымліваюць левырадыкальны рух усяго свету.

Гэта не камуністы. Іх яны лічаць апартуністамі, рэвізіяністамі, наогул здраднікамі справы Бакуніна, Леніна і Мао Цзэдуна.

У сувязі з наглядной сітуацыяй, якая склалася ў краіне, лева-радыкалы плануюць выйсці на дэманстрацыю з лозунгамі, якія выражаюць непарыўную сувязь сучаснасці з эпохай Кастрычніка і слаўнымі дзянькамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, тыпу: "Далоў часовы Урад!", "Далоў самадзяржаўе!", а таксама "Далоў міністраў-капіталістаў!".

Да ўсяго яшчэ -- "Далоў рэвізіянізм!". Хаця простаму чытачу і цяжка ўспомніць, што гэта такое...

***Жана СІНІЦКАЯ,***
***для "БМ"***

